Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

ІВАЦЭВІЧЫ -БАРАНАВІЧЫ -БЯРОЗА

2–8 студзеня 1999 года
№ 1 (159)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 3000 руб.
Цана ў розніцу — 5000 руб.

НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

ІВАЦЭВІЧЫ



*Ён хацеў купіць яйкі без чаргі. Фота IREX.*

## ПРЫНІЖАНЫЯ І АБРАЖАНЫЯ

Дзверы адчыніліся і натоўп хлынуў у памяшканне .

— Божа, задушыце дзіця! — закрычала жанчына сярэдняга ўзросту, спрабуючы аберагчы дзесяцігадовага хлопчыка ад націску людзей.

— Ты чаго яго сюды вяла, — крыкнулі ў адказ.

— Нахалюга, малады, здаровы, а дзіця на рукі ўзяў і прэцца, — крычалі на маладога мужчыну з гадавалым дзіцём на руках.

— А што дзіця яек не хоча! — парыраваў мужчына.

— Дык стань у канец чаргі! Стань, стань!

— Не пускайце гэтую ў чырвоным паліто, яна тут не стаяла!

— Адыдзіце ад прылаўка, перавернеце касу!

— "... твою мать", зараз у рыла заеду, калі ты будзеш так таўкці мяне...

Паважаныя чытачы! Даруйце за натуралізм апісанай сітуацыі, але гэта — наша жорсткае сённяшняе жыццё. Гэта — чарга за дзесяткам яек у Івацэвіцкім магазіне ад Баранавіцкай птушкафабрыкі "Дружба". У ёй чалавек ужо страчвае сваё "я" і ператвараецца ў прыніжаную і абражаную істоту. Ці хіба можна гаварыць аб нейкай павазе да чалавека, калі ён вымушаны таўкціся, лаяцца, цярпець пакуты з-за дзесятка яек?

70 гадоў з лішкам мы стаялі ў чэргах і будавалі камунізм. Зараз пра гэтую будоўлю ўжо нам не ўспамінаюць па прычыне яе абсурднасці. Але пра шчаслівае, стабільнае жыццё талдычаць кожны дзень. Эксперымент працягваецца. А чарга за дзесяткам яек гвалтам крычыць і крычыць...

### Не купіць бензіну

Рэальны стан спраў на аўтазапраўках нашага рэгіёну і Беларусі ў цэлым толькі пацвярджае ўсю нікчэмнасць інтэграцыйнай рыторыкі кіраўніцтва нашай дзяржавы. Сяброўства з Расіяй, відаць, падразумявае толькі пацалункі, выпітыя чаркі, узнёслыя размовы, ад якіх, тым не менш, у канкрэтным аўтамабільным баку, нават калі маеш грошы, больш паліва не становіцца. Чаму паліва свабодна можна купіць у Літве, Латвіі, Польшчы, чыё кіраўніцтва не мілуецца з расійскім, а ў нас не — зразумець немагчыма. Відаць, маюць рацыю тыя, хто сцвярджае: "Зноў паехаў наш прэзідэнт у Расію — зноў паліва прападзе".

Тым часам, на аўтазапраўках Івацэвічаў, куды за інфармацыяй звярнуліся супрацоўнікі "Газеты для вас", нам паведамілі, што бензіну няма прыкладна 2-3 месяцы. Хутчэй за ўсё ў бліжэйшы час ён і не з'явіцца.

Есць толькі дызпаліва, але па 20 літраў на аўтамабіль. Кошт яго — 17200 рублёў за літр. Па магнітных картках аўтамабілі ад тых або іншых арганізацый могуць набыць бензін, але не больш за 10 літраў. Дзе запраўляцца прыватнаму аўтамабілісту, незразумела. Што ў зніккненні яек і масла вінаваты спекулянты і мы ўсе, бо ствараем ажыятажны попыт, вядома з афіцыйных паведамленняў. А хто вінаваты ў зніккненні бензіну? Няўжо зноў усе мы?

### Расце змена спартсменаў

Напярэдадні Новага года ў Яглевіцкай СШ адбылося першынства па боксу "Навагодні юнацкі турнір" сярод школьнікаў раёна. Удзел у ім прымалі 16 юных баксёраў. Першыя месцы занялі Павел Пакрышка (вагавая катэгорыя да 30 кг, Яглевіцкая СШ), Сяргей Данільчык (да 33 кг, Яглевіцкая СШ), Андрэй Турчыновіч (да 35 кг, івацэвіцкая СШ № 2), Віталій Ягнешык (да 36 кг, Яглевіцкая СШ), Аляксандр Молаш (да 55 кг, Яглевіцкая СШ).

## 7 СТУДЗЕНЯ — НАРАДЖЭННЕ ХРЫСТОВА

***Ва ўсім свеце дзень Нараджэння Хрыста з'яўляецца самым вялікім святам. Гэтая радасць, якую абвясціў у Бэтлееме Анёл пастухам, на працягу многіх стагоддзяў жыве ў сэрцах хрысціян.***

***7 студзеня пачынаюцца праваслаўныя Каляды і будуць працягвацца два тыдні. Шчаслівых вам святаў, дарагія чытачы і падпісчыкі "Газеты для вас". Няхай ахоўвае вас Гасподзь!***

БАРАНАВІЧЫ

### Пили вместе...

С колотым ранением подключичной области слева, венозным кровотечением в состоянии алкогольного опьянения 24 декабря в горбольницу был доставлен неработающий гражданин Т., 1973 года рождения. Повреждение ему причинил наглядно знакомый во время распития спиртных напитков. Установить личность преступника пока невозможно, т. к. пострадавший находится в бессознательном состоянии.

### Не храните вещи в сарае...

На сумму более 118 миллионов рублей похищено товарно-материальных ценностей у гражданки К., частного предпринимателя. Вещи (72 наименования изделий из пластмассы) были украдены из сарая.

А у гражданина Ж., 1978 года рождения, с 9.00 25 декабря до 9.00 26 декабря украли вещи: куртку кожаную, костюм, брюки на сумму, по его словам, 41 миллион рублей. В совершении преступления подозревается гражданин К., 1972 года рождения. Похищенное частично изъято. Преступник находится в розыске.

### А бомбы не было

Информация о том, что в кафе Полесского вокзала заложена бомба, не подтвердилась.

В половине девятого вечера 23 декабря неизвестный позвонил дежурному железнодорожной милиции и сообщил о бомбе. Со здания вокзала сразу же были эвакуированы все люди. Были приняты меры безопасности во время отправления и прибытия пассажиров. Движение поездов не прекращалось.

Прибывшие вскоре на вокзал саперы признаков пребывания бомбы в кафе не обнаружили.

Происшествие расследуется.

БЯРОЗА

### Калі не хапае сыравіны

Адзін з буйнейшых у рэспубліцы мясакансервавых камбінатаў "Бярозаўскі" ў гэтыя зімовыя дні адчувае недахоп сыравіны. Менавіта па гэтай прычыне на прадпрыемстве ўведзены няпоўны працоўны тыдзень. Аднак тут выкарыстоўваюць любыя магчымасці для пашырэння выпуску прадукцыі, яе разнастайнасці і абнаўлення асартыменту. За кошт чаго? Здавалася, усё ідзе ў ход, ад тушы жывёлы, застаюцца толькі "рожкі ды ножкі". Тым не менш, тэхнолагі камбіната рашылі выкарыстаць нетрадыцыйную сыравіну: гародніну, розныя крупы, бялковыя стабілізатары, спецыі і дабаўкі. Гэта бульба, морква, капуста, розныя крупы і гарох.

Не так даўно ў тэхналагічны працэс была ўведзена соя. Але аказалася, што соя даражэй мяса — два долары ЗША за кілаграм. Таму адмовіліся ад яе і пачалі выкарыстоўваць уласную сыравіну.

Так, гарох як дабаўка ўваходзіць у каўбасу "Нікалаеўская", сардэлькі "Светачскія". Крупы выкарыстоўваюцца пры вырабе сасісак, выпуск якіх значна павялічылі.

У гэтыя перадсвяточныя і святочныя дні ў магазінах усё ж ёсць чэргі, асабліва за варанай каўбасой. Для горада штодзённа заказваецца дзве тоны гэтай прадукцыі, а даюць толькі 300 кілаграмаў у дзень. Астатняя прадукцыя адпраўляецца ў Брэст, Мінск, іншыя гарады рэспублікі.

## КОНКУРС "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*МАРИНА, по гороскопу — Водолей. Люблю домашний уют, порядок во всем. Мой любимый актер и кумир — Арнольд Шварценеггер. Считаю, что физическая сила, сила духа и уверенность в себе только украшают настоящего мужчину. Рядом с таким мужчиной любая дама себя чувствует превосходно.*

**ОТ РЕДАКЦИИ. Итак, уважаемые читатели, "Газета для вас" продолжает конкурс "Самая обаятельная и привлекательная", в котором любая из вас, уважаемые красавицы, может принять участие. Ждем ваших писем с фотографиями и небольшим описанием своего внутреннего мира.**

**Если же для участия в конкурсе вам необходимы услуги фотографа, то звоните по редакционному телефону в г. Ивацевичи 2-12-29.**

## ЦІ ХАЧУ Я Ў НОВЫ САЮЗ?

Чатыры з паловай гады мы жывём у краіне, якой кіруе прэзідэнт. Штогод па ініцыятыве кіраўніка нашай дзяржавы заключаюцца з Расіяй розныя саюзы: то двухбаковыя, то чатырохбаковыя. Якая і каму карысць ад гэтага? Скажу прама — толькі не людзям. Зарплата і пенсіі знізіліся, расце колькасць беспрацоўных. І за тыя мізэрныя грошы не купіш сёння самых неабходных прадуктаў, бо цэны намнога апярэдзілі заробкі і пенсіі.

І вось новая ініцыятыва нашага прэзідэнта. У Маскве падпісаны Дагавор паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй аб роўных правах грамадзян і Дэкларацыя аб далейшым яднанні Беларусі і Расіі.

Два прэзідэнты вырашаюць лёс сваіх народаў. Хто спытаў у кожнага з нас, хочам мы ці не хочам аб'ядноўвацца ў той саюз? Ніхто. Прэзідэнт — гэта яшчэ не ўвесь народ і за ўсіх рашаць ніхто не даў права.

Ужо чатыры гады мы жывём у розных саюзах. Эканоміка Беларусі, па ацэнках спецыялістаў, коціцца ў бездань. Яшчэ ніколі жыццё нашага народа не было такім жабрацкім. Дый як можна пражыць, калі мінімальная зарплата паўтара долара. Відаць, гэта тыя саюзы "дапамаглі" нам.

Мяне могуць папракнуць, што я супраць Расіі, супраць рускага народа. Ні ў якім разе. Патрэбны самыя цесныя эканамічныя сувязі. Неабходна ўмацоўваць сваю эканоміку, паляпшаць дабрабыт народа. Гэта перш за ўсё. А палітычныя саюзы, на маю думку, варта адкласці на потым, калі наш чалавек будзе жыць дастойна і не будзе ламаць галаву, як яму пракарміць сваю сям'ю.

Іду па Івацэвічах і пастаянна бачу чэргі, чэргі... Людзі гадзінамі стаяць, каб узяць дзесятак яек, паўкіло смятаны. Маслам і цукрам ужо накармілі гараджан — 200 грамаў і кілаграм на месяц. Ешце, папраўляйцеся і рыхтуйцеся да яднання з сястрой Расіяй, у якой і галадаюць, і бастуюць, і зарплату не атрымліваюць...

*П. РУСАК, жыхар г. Івацэвічы.*

НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Новая ініцыятыва БНФ

***Народны Фронт рыхтуе новую ініцыятыву ў адказ на запланаваную Лукашэнкам чарговую спробу далучэння Беларусі да Расіі.***

Як паведаміў адзін з кіраўнікоў БНФ Лявон Баршчэўскі, у выпадку рэалізацыі плану Лукашэнкі, Народны Фронт распачне збор подпісаў за правядзенне рэферэндуму па пытанні захавання незалежнасці Беларусі і інтэграцыі РБ у Еўрапейскі саюз. Дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы будуць падавацца не ў прэзідэнцкую выбарчую камісію, а ў легітымны Цэнтрвыбаркам.

## "Мінімалка" — 500 тысяч?

***Бліжэйшымі днямі чакаецца рашэнне Савета міністраў Беларусі аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы да 500 тысяч рублёў.***

Нагадаем, што папярэдняе павышэнне памеру мінімальнай зарплаты адбылося 1 кастрычніка —з 250 да 350 тысяч рублёў.

## Назіральнікі АБСЕ пайшлі па турмах

***На мінулым тыдні кіраўнік групы АБСЕ ў Беларусі Ханс-Георг Вік наведаў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Андрэя Клімава і Уладзіміра Кудзінава.***

16 снежня спадар Вік сустрэўся з дэпутатам А. Клімавым, які ўжо адзінаццаты месяц знаходзіцца ў мінскім следчым ізалятары на вуліцы Валадарскага. Наступным днем кіраўнік групы АБСЕ пагутарыў з дэпутатам Уладзімірам Кудзінавым і актывістам Малога Фронту Аляксеем Шыдлоўскім, якія адбываюць пакаранне ў мінскай калоніі. Тым часам намеснік кіраўніка групы АБСЕ спадар Кляйнер наведаў Бабруйскі следчы ізалятар, дзе сустрэўся з Васілём Старавойтавым.

У прадстаўніцтве АБСЕ сказалі, што падобныя сустрэчы і візіты ў папраўча-працоўныя ўстановы Беларусі "з'яўляюцца часткай работы кансультацыйна-назіральнай групы". Не ўдалося даведацца пра змест размовы са зняволенымі дэпутатамі, паколькі пасла Віка цяпер няма ў Беларусі.

## Дэпутацкая салідарнасць

***Шэсць расійскіх дэпутатаў на чале з Канстанцінам Баравым далучыліся да акцыі "Парламентарыі Еўропы за свабоду А. Клімава і У. Кудзінава".***

Такім чынам, у абарону зняволеных дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі ўжо выказаліся парламентарыі 19 еўрапейскіх краінаў.

Да канца гэтага года арганізатары акцыі плануюць сабраць 500 подпісаў у абарону сваіх калег.

*(БелаПАН).*

## У студзені зноў узрастуць пенсіі

***У студзені будзе праведзены чарговы пераразлік пенсій. Такую інфармацыю паведамілі ўчора ў Міністэрстве сацыяльнай абароны.***

Варта нагадаць, што паводле цяперашняга заканадаўства пераразлік працоўных пенсій робіцца ў выпадку, калі сярэдняя зарплата рабочых і служачых у краіне перавышае 15-працэнтны парог. Паводле апошніх даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, у параўнанні з кастрычніцкімі заробкамі (зыходзячы з якіх пераразлічваліся пенсіі ў снежні) рост сярэдняй зарплаты ў лістападзе склаў 11,7 працэнта. Нягледзячы на гэта пераразлік пенсій у студзені ўсё ж адбудзецца: такое рашэнне было прынята днямі ўрадам краіны.

У сярэднім студзеньскія пенсіі ўзрастуць на 12,9 працэнта. Памер максімальнай працоўнай пенсіі складае ў наступным месяцы 3 млн. 653,8 тыс., сярэдняй — 3 млн. 50 тыс., а мінімальнай — 1 млн. 500 тыс. рублёў. Апроч таго, у сувязі з павышэннем з 1 студзеня мінімальнай зарплаты з 350 да 500 тысяч павысяцца памеры надбавак і павышэнняў для асобных катэгорый пенсіянераў.

## Напрыканцы мінулага года больш чым напалову падаражэў транспарт...

***З 25 снежня 1998 г. больш чым напалову павялічыліся тарыфы на паслугі прыгараднага і міжгароднага аўтамабільнага пасажырскага транспарту.***

Цяпер у абодвух выпадках кошт аднаго кіламерта праезду складае: у аўтобусах агульнага тыпу — 1100 рублёў (было 700 рублёў), у машынах з мяккімі крэсламі — 1150 рублёў (было 730 рублёў за кіламетр праезду).

*(Звязда).*

ТАКОВА ЖИЗНЬ

# НАШЕ БУДУЩЕЕ — СТРАНА ДУРАКОВ?

"Народ, у которого рождается 14% дебилов, обречен на вымирание", — считает академик Т. Г. Дичев. В Беларуси сейчас рождается около 12% таких детей.

1 сентября 1998 года в школах г. Барановичи открыто дополнительно 4 спецкласса. Всего таких классов 19. 2/3 детей, обучающихся в них, имеют диагноз: задержка психического развития (ЗПР). Кроме того, в городе работают два специализированных детских сада. Школы-интернаты Брестской области (их 6) для детей с психофизическими отклонениями переполнены. Только в Телеханах вместо 120 учатся 204 ребенка, а мест все равно не хватает.

В диагностико-реабилитационном центре г. Барановичи за 8 месяцев прошлого года уже прошли обследование больше 1000 детей из Барановичей и района, тогда как за весь 1997 год из нашего региона было направлено на обследование всего 1043 ребенка. Большей части из них поставлен диагноз: задержка психического развития и олигофрения.

А что же государство? Видит ли оно положение в обществе? Судя по всему, видит, а вот исправить... Впрочем, судите сами.

С 23 по 25 апреля 1998 года в Минске прошла международная конференция под названием "Реабилитация людей с психическими проблемами в обществах переходного периода". Показательно, что организаторами конференции были Министерство здравоохранения РБ, министерство социальной защиты РБ, Белорусский союз социальных педагогов и социальных работников, Белорусская психиатрическая ассоциация, а также Белорусский Экзархат, Министерство по чрезвычайным ситуациям РБ, Белорусская ассоциация помощи детям-инвалидам, Белорусский Хельсинкский комитет, Программа развития ООН.

Зарубежные и белорусские специалисты обменялись накопленным опытом по реабилитации людей, имеющих психологические проблемы. У нас в городе тоже сложилась определенная система мер в работе с такой категорией людей. Начинается все с проведения диагностики на ранней стадии беременности для выявления детей с патологией. (За два последних года в Барановичах зарегистрировано шесть случаев прерывания беременности только из-за врожденной патологии центральной нервной системы).

Кроме того, в период беременности будущие родители посещают лекции, где их учат, как правильно вести себя на протяжении всей беременности, чтобы ребенок родился здоровым.

Следующим звеном в системе работы с людьми, имеющими психологические проблемы, является диагностико-реабилитационный центр (ДРЦ), открытый в 1994 году. Работы там специалистам хватает. Психолого-медико-педагогическая комиссия принимает пациентов каждый день. Психиатр, дефектолог, логопед, психолог работают с каждым ребенком и родителями индивидуально. Ставят диагноз и предлагают помощь. Но чтобы лечение было более эффективным, необходимо сочетать психологическую помощь с медикоментозным лечением. С этой целью с января 1998 года при Барановичском психоневрологическом диспансере был открыт детский дневной стационар. За девять месяцев текущего года здесь пролечился 191 ребенок. По мнению специалистов диспансера — это очень большая цифра.

В чем же причина? Почему в Беларуси так много детей с психическими отклонениями?

Мнение всех специалистов диагностико-реабилитационного центра едино: "Такое положение связано с низким уровнем жизни семьи, недостаточным вниманием родителей к детям, алкоголизацией родителей, наследственной патологией".

Главврач психоневрологического диспансера Ю. В. Навроцкий в своих комментариях был еще более категоричен, и на первое место поставил алкоголизацию общества.

Действительно, пропаганда здорового образа жизни у нас ведется слабо. А мешает этому в первую очередь само государство, которое требует, с одной стороны, читать подросткам лекции о вреде пьянства и курения, а с другой — стимулирует эти пороки, продавая "чернила" по 80—90 тысяч рублей за бутылку, сигареты в киосках по 10—12 тысяч за штуку, а килограмм вареной колбасы, для сравнения, стоит около 150 тысяч и выше. И вообще, при нашем "высоком" уровне жизни с зарплатой в 2—2,5 млн. рублей проще напиться и ни о чем не думать, чем думать, как прокормить семью.

Что же касается наследственной патологии, то известно, кого могут зачать пьяные родители. Причем, многие из них рожают детей с патологией сознательно, чтобы получать пособие по инвалидности ребенка или многодетности и потом жить за счет таких пособий.

Кроме того, среди взрослого населения Барановичей 16% стоящих на учете в психоневрологическом диспансере имеют диагноз олигофрения. Но вступать в брак таким людям закон не запрещает, значит, и детей рожать тоже. А кого произведут на свет родители-олигофрены?

Может быть, настало время вести разговор о принудительной стерилизации этих категорий людей, чтобы Беларусь не превратилась в страну дебилов?

Вот и получается, что проводя подобную политику, государство рубит сук, на котором сидит. Вымрет народ — исчезнет государство. По словам академика М. Д. Тявловского, уже "через 100 лет по причине дебилизации с лица Земли может исчезнуть последний житель Беларуси". Но похоже, что белорусские чиновники не очень обеспокоены подобной перспективой. Наверное, они думают, что сто лет — это много, и им будет кем руководить, а после них — хоть потоп.

*Г. ЗАГАДСКАЯ.*
*г. Барановичи.*

СЮЖЭТ У КАНВЕРЦЕ

# Дзякуй усім!

***Паважаная рэдакцыя "Газеты для вас"!***

***Вашу газету пачаў выпісваць толькі з другога паўгоддзя мінулага года. Сорамна прызнацца, але аб ёй даведаўся ў адной з афіцыйных раёнак. Вельмі ўжо яны вас ганьбілі. Эге, падумаў я, нешта ж у гэтай газеце ёсць, калі гэтыя людзі нібы з ланцуга рвуцца! Купіў экземпляр "Газеты для вас" у кіёску, прачытаў і зразумеў, у чым справа. Хто ж адкажа сабе ў асалодзе ўкусіць непажаданага ды цікавага канкурэнта! Ваша становішча, "Газета для вас", мне бачыцца малюнкам наступнага сюжэту:...***

***(З пісьма жыхара г. Косава Івацэвіцкага раёна В. Васькова).***




Ну, прызнаемся: спадабаўся нам сюжэт, падказаны В. Васьковым. А мастак рэдакцыйны ўвасобіў яго на паперы. Спадзяёмся, што гумар ды сатыру нашы чытачы ўспрымаюць адпаведным чынам. Мы ж шчыра выказваем падзяку ўсім тым, хто нас чытае, выпісвае, нам піша, звоніць і заходзіць у рэдакцыю. Мы аб'яўляем нашу падзяку і тым, хто ўвесь свой запас злосці, шаленства і зласлоўя накіроўвае на "Газету для вас". Гэта азначае толькі адно: яна прыцягвае і турбуе, прымушае думаць, аналізаваць, рабіць высновы. І што б ні брахалі (ой, даруйце) — пісалі пра нас моські, людзі разбяруцца. Пра гэта сведчыць той факт, што тыраж нашай газеты расце няўхільна. Цяпер ён складае ўжо 3700 экземпляраў. Таму — дзякуй усім. Чытайце і абмяркоўвайце "Газету для вас", пішыце аб ёй нататкі!

Дарэчы, яе выпісваюць не толькі жыхары Івацэвічаў, Бярозы, Баранавічаў, але і Мінска, Брэста, Мёраў, Кобрына, Шчучына, Брагіна, Магілёва...

